

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№4(120)

15 лютага 2014 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# «ВЫ Ж ПАДРЫВАЕЦЕ АЎТАРЫТЭТ ПРЭЗІДЭНТА!»

**Усевалад ШЛЫКАЎ, “Аб’ектыў”, belsat.eu**

***Не толькі афрыканская чума свіней, але і прафілактычная зачыстка фактычна выкасілі пагалоўе свіней у шматлікіх рэгіёнах краіны. Але праблемы ў тых, хто асмеліўся пратэставаць супраць знішчэння сваёй маёмасці, працягваюцца. Жыхарка Клімавіцкага раёну яшчэ са жніўня спрабуе даказаць, што мае права на ўласную гаспадарку.***



Да Магілёўскай вобласці чума не дабралася, але жыхарам вёскі Дамамерычы ўсё роўна загадалі знішчыць жывёлу. Прычына ў тым, што АЧС знайшлі ў суседняй... Смаленскай вобласці Расіі. З вяскоўцаў толькі Алена Марчанка пастанавіла адстойваць свае правы ды патрабаваць кампенсацыю, калі ўжо так неабходна забіваць свіней.

**** АЛЕНА МАРЧАНКА, ЖЫХАРКА ВЁСКІ ДАМАМЕРЫЧЫ:***

***“Нам канкрэтна сказалі, што грошай у бюджэце няма. Увогуле, калі вы і аддасцё сваіх маленькіх парсюкоў, то будзеце чакаць “энную” колькасць часу, можа, і гадамі. Гэта прадстаўнік вобласці казаў”.***

У спадарыні Марчанка на свінагадоўлі трымалася ўся гаспадарка. Грошы з яе ішлі на лекаванне сына, які пакутуе ад рэдкай анамаліі касцей. Ды акрамя ўсяго гэтага, ейны дом проста не ўваходзіць у 5-кіламетровую зону бяспекі вакол ачагу АЧС. Але жанчына ўсё роўна мусіла дабівацца праўды ў судзе. Мясцовым чыноўнікам нават кіраўнік краіны не ўказ, абураецца жанчына.

**** АЛЕНА МАРЧАНКА, ЖЫХАРКА ВЁСКІ ДАМАМЕРЫЧЫ:***

***“Прэзідэнт таксама казаў да кожнага падыходзіць індывідуальна. То бок не чуюць — мне проста ў твар кажуць, ці мала, што там прэзідэнт сказаў. То бок падрываюць. Вы ж асобы на пасадзе, прызначаныя фактычна прэзідэнтам, вы ж падрываеце аўтарытэт прэзідэнта!”***

Ці гэта пераканала чыноўнікаў, невядома. Аднак у выніку адміністрацыя раёну дазволіла жанчыне пакінуць жывёлінаў... да першага сакавіка. Аднавяскоўцы ж суседкі не падтрымалі — маўляў, трэба было хаваць свіней, як зрабіла большасць з іх. Але гэткія партызанскія метады — не найлепшы шлях да абароны сваёй гаспадаркі і сваіх правоў, мяркуюць адмыслоўцы.

**** БАРЫС БУХЕЛЬ, ПРАВААБАРОНЦА:***

***“Пакуль яны не аб’ядналюцца, пакуль не пачнуць калектыўна бараніць, ствараць нейкія грамадскія арганізацыі, то будзе так — будуць іх біць па адным. Хтосьці ведае пра праваабаронцаў, знойдзе выйсце, а тыя, хто не ведаюць, здаюцца”.***

Алена Марчанка не здавалася. Яна звярталася і ў Міністэрства сельскай гаспадаркі, і ў Камітэт дзяржкантролю, ды нават напісала зварот у Адміністрацыю прэзідэнта. Бо мясцовыя чыноўнікі параілі ёй... пераехаць. Тая адказала судоваю позваю.

**** СЯРГЕЙ НЯРОЎНЫ, ЖУРНАЛІСТ, ГАЗЕТА «ВОЛЬНЫ ГОРАД»:***

***“Будзем назіраць, што будзе з Аленаю Марчанка, і маральна яе падтрымліваць, бо гэта будзе добры прыклад для астатніх, што і ў гэтай сітуацыі, будзь тое чума свіней, ці іншае — заўсёды трэба абараняць свае правы і пачуваць сябе годным чалавекам”.***

А часам і пераможцам. Суд Клімавіцкага раёну адмяніў пастанову раённай адміністрацыі. Хоць вырашаць, ці мае жанчына права трымаць свіней, будуць на чарговым паседжанні, для Алены Марчанка такая пастанова — ужо перамога. Такога маглі дамагчыся і іншыя пакрыўджаныя ветэрынарнымі службамі, калі б не баяліся змагацца за свае правы.

# «ВРЕМЯ ПОКАЖЕТ, КАКАЯ КАРТОШКА ОКАЖЕТСЯ ЛУЧШЕ. НО ОТНЫНЕ ПРОДАВАТЬ ЕЁ БУДЕМ МЫ»

Сергей БАЛАЙ, Салідарнасць

***«Запрет на импортную картошку пойдет на пользу местному производителю», — склоняются чиновники, фермеры и производители картофеля. «Салідарнасць» разбиралась, что стоит за радикальными мерами и как они скажутся на рынке.***

С 1 февраля Беларусь по просьбе России временно запретила ввоз картофеля из Европы. К принятию подобных мер вынудили в первую очередь условия соглашений Таможенного союза.

— Безусловно, европейский картофель для нас опасен, — сказал «Салідарнасці» директор национальной инспекции по семеноводству, карантину и защите растений Леонид Плешко. — Земля везде одинаковая, что в Голландии, что в Беларуси. И та же картофельная нематода и другие паразиты, завезенные из Европы, прекрасно размножаются у нас и губят урожаи картофеля. Из-за отсутствия границы с Россией картофель из стран ЕС распространялся бесконтрольно. Вероятно, этими соображениями и руководствовались при введении данного запрета.

По мнению чиновника, запретная мера в рамках Таможенного союза поспособствует продвижению белорусского картофеля на российский рынок:

— Сейчас, когда рынок для импортного картофеля будет закрыт, со стороны российского покупателя возрастет интерес к белорусскому картофелю. Сложно сравнивать отечественные сорта с импортными по урожайности, но белорусский картофель более долгосрочен в плане репродуктивности. Европейские генетики производят такой картофель, который даёт урожай три года. После этого его репродуктивность падает и нужно покупать семенной картофель снова. Это делается специально с целью получения коммерческой выгоды, хотя европейские сорта отличаются высокой урожайностью. Кроме того, не стоит забывать, что запрет не носит тотального характера. В Европу выезжают российские специалисты, проводят исследования в местах производства картофеля и точечно дают разрешения на ввоз семенного картофеля, если нет никакой заразы.

Фермеры и семеноводы отчасти соглашаются с запретительными мерами:

— Конечно, это ударит по тем хозяйствам, которые специализируются на импортном картофеле, — отметил руководитель семеноводческого хозяйства, пожелавший остаться неназванным. — Мы тоже в какой-то степени понесём убытки от этого запрета. Но попытаемся компенсировать недостаток производством белорусского продукта.

Собеседник отмечает, что при высокой урожайности импортный картофель часто бывает заражен паразитами, а также у него короткий репродуктивный цикл:

— Больше всего претензий к голландской картошке. В первый год она даёт большой выход, но на следующий — снижается урожайность. Так что три года — максимум, что удается выжать из голландского продукта.

Того же мнения придерживается руководитель фермерско-крестьянского хозяйства «ТЕМП ЗСА» Сергей Захаревич.

— Голландия — это слабые мошенники, – шутливо отмечает собеседник «Салідарнасці». – По урожайности в первый год, по здоровью клубня — это великолепная картошка. Но потом она легко заражается болезнями и её репродукция сильно снижается. Белорусский картофель не такой урожайный, но он более стабилен.

Производитель отмечает, что основной удар придется по тем хозяйствам, которые в этом году будут вынуждены менять импортную семенную базу на отечественную.

— Если на голландском материале производитель посадил 20 тонн «элиты» и получил на выходе 300 тонн той же «элиты» или первой репродукции, то отечественный картофель не даст такого урожая. С другой стороны, надо протаскивать хорошую белорусскую селекцию на российский рынок. Пока границы для европейской картошки были открыты, российский потребитель, оценивая все риски и минусы, все равно смотрел в сторону импортного картофеля. Теперь стоит рассчитывать на старания белорусских селекционеров. Время покажет, какая картошка окажется лучше. Но отныне продавать картофель будем мы, и деньги останутся в Беларуси, — подытожил фермер.

**** КОММЕНТАРИЙ «Клімавіцкай Інфа-Панарамы»:***

Сельское хозяйство Беларуси находится в глубоком кризисе. Убыточно производство почти всей сельхозпродукции — молока, мяса, пшеницы, льна… Белорусы разучились выращивать даже картошку, поэтому и рады воспользоваться ограничительными мерами против европейских производителей картофеля.

А ведь когда-то всё было совсем иначе. К примеру, в нашем Климовичском районе до прихода Лукашенко к власти сельхозорганизации производили более 5 тысяч тонн картофеля. А сколько ещё бульбочки заготавливалось климовчанами для собственных нужд! Но теперь о былых достижениях молчат, о них предпочитают не вспоминать.

**ВАЛОВОЙ СБОР КАРТОФЕЛЯ В СЕЛЬХОЗОРГАНИЗАЦИЯХ КЛИМОВИЧСКОГО РАЙОНА**

| 2005 год | 2006 год | 2007 год | 2008 год | 2009 год | 2010 год | 2011 год | 2012 год | 2013 год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2157 тонн | 1410 тонн | 1938 тонн | 1192 тонн | 645 тонн | 258 тонн | 1405 тонн | 1457 тонн | 1470 тонн |





# ВАКОЛ ДЭПУТАЦТВА ЎЛАДЗІМІРА КРАЎЦОВА ПРАЦЯГВАЮЦЦА СПРЭЧКІ

Алена ПАЛЯКОВА

***Грамадскі актывіст з Хоцімска Валерый Каранкевіч ужо ў каторы раз прапануе спыніць паўнамоцтвы дэпутата Палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Краўцова. Спадар Краўцоў прадстаўляе ў парламенце выбаршчыкаў Хоцімскага, а таксама Клімавіцкага і Крычаўскага раёнаў. Але зараз ён працуе на яшчэ адной дзяржаўнай пасадзе, бо прызначаны старшынёй Гродзенскага аблвыканкама. Нягледзячы на гэта, адмаўляцца ад свайго дэпутацтва ён не збіраецца.***

Справа ў тым, што па закону дэпутатам Палаты прадстаўнікоў не дазваляецца сумяшчаць дзейнасць у парламенце з іншай дзяржаўнай пасадай. Менавіта таму Валерый Каранкевіч, які дарэчы быў супернікам Уладзіміра Краўцова на парламенцкіх выбарах, звяртаецца ў розныя ўстановы, каб указаць на гэтую супярэчнасць. Ён лічыць, што Краўцову трэба канчаткова вызначыцца — быць кіраўніком Гродзенскай вобласці або дэпутатам у парламенце.

Меркаванне самога Уладзіміра Краўцова нам не вядомае, бо з яго боку якія-небудзь каментарыі адсутнічаюць. Што тычыцца старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, да якой звяртаўся Валерый Каранкевіч, то вырашыць гэтае пытанне яна не здолела. Ярмошына кажа, што Цэнтрвыбаркам праводзіць выбары, а спыненнем паўнамоцтваў займаецца парламент. У сваю чаргу, у Палаце прадстаўнікоў лічаць, што іх калега, нават пасля пераезду ў Гродна, спраўляецца з дэпутацкімі абавязкамі.

Дарэчы, зусім нядаўна Лукашэнка зрабіў шэраг чарговых кадравых прызначэнняў. Адно з іх нельга не заўважыць. Напрыканцы студзеня 35-гадовую чыноўніцу Алену Агей з гарвыканкама ў Мастах прызначылі намесніцай старшыні Гродзенскага аблвыканкама. Што цікава, сёння гэта адзіная жанчына ў кіраўніцтве беларускіх абласцей. У кожнага старшыні маецца па некалькі намеснікаў, але жанчын на сённяшні момант не было. Так што, як бачым, Уладзіміра Краўцова падтрымалі як у парламенце, так і маладымі кадрамі на ягонай новай пасадзе.

Што тут казаць, наменклатура сваіх не кідае…

***У ТЭМУ:***

Адзначым, што незалежныя СМІ ўсё ж працягваюць нагадваць уладам пра супярэчлівы статус парламентарыяў, прызначаных на іншую дзяржаўную працу. Так, 10 лютага журналіст Еўрарадыё Зміцер Лукашук зноў запытаўся ў старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, чаму не выконваюцца патрабаванні заканадаўства:

* Еўрарадыё: Зараз будуць даабіраць аднаго дэпутата Палаты прадстаўнікоў. Але ж вядома, што двух парламентарыяў прызначылі губернатарамі, яшчэ аднаго — старшынёй райвыканкама. Сёння яны і дэпутаты парламента, і чыноўнікі. Але ж гэта супрацьзаконна!

* Лідзія Ярмошына: Мы не даём ацэнку законнасці знаходжання ў статусе дэпутата — гэта не нашы паўнамоцтвы. Мы вызначаем і прымаем меры для правядзення выбараў толькі ў тым выпадку, калі акруга становіцца вакантнай. Акругі вакантнымі не сталі, таму гэта — бессэнсоўная размова.

* Еўрарадыё: То, магчыма, падчас веснавой сесіі парламентарыі пазбавяць дэпутацкіх паўнамоцтваў сваіх калег, прызначаных на дзяржпрацу?

* Лідзія Ярмошына: Ведаеце, але ў такім выпадку і выбары новых дэпутатаў праводзіць бессэнсоўна. Бо бліжэйшая выбарчая кампанія — выбары прэзідэнта ў 2015 годзе. І да наступных парламенцкіх выбараў застанецца менш за год. На год абіраць дэпутата няма сэнсу, і выбары праводзіцца не будуць.

* Еўрарадыё: Значыцца, ім давядзецца сумяшчаць дзве пасады да канца тэрміну, нягледзячы на тое, што гэта супярэчыць патрабаванням закону "Аб Нацыянальным сходзе"?

* Лідзія Ярмошына: Ну, а што?! Скаргаў ад выбаршчыкаў няма. А значыцца, гэтае сумяшчэнне не вядзе да таго, што правы выбаршчыкаў у нечым парушаныя.

# НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ Ў СКЛАДЗЕ ЎЧАСТКОВЫХ КАМІСІЙ НІВОДНАГА ПРАДСТАЎНІКА АПАЗІЦЫЙНЫХ ПАРТЫЙ

***Усяго ў Магілёўскай вобласці ўтворана 785 выбарчых камісій. У іх склад увайшлі 8521 чалавек.***

Шляхам збору подпісаў ў камісіі вобласці вылучана 3448 чалавек, ад грамадскіх арганізацый — 3321 чалавек, ад працоўных калектываў — 1752. Сярод грамадскіх арганізацый Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі вылучыла 1045 чалавек, "Белая Русь" — 503, БРСМ — 420, аб'яднанне ветэранаў — 354, Беларускі саюз жанчын — 318.

Ад палітычных партый у склад камісій уключана 53 чалавекі. 39 з іх прадстаўляюць Рэспубліканскую партыю працы і справядлівасці, а 14 — Камуністычную партыю Беларусі. А вось ад апазіцыйных партый на Магілёўшчыне не ўключылі ніводнага прадстаўніка.

Не лепей становішча і ў іншых абласцях. У цэлым па краіне ў склад участковых выбарчых камісій, сфармаваных для працы на мясцовых выбарах, уключаны толькі 23 прадстаўніка апазіцыйных партый. Для параўнання — усяго ў Беларусі ўтворана 6.170 выбарчых камісій, у склад якіх увайшло 67.069 чалавек.



**** паводле інфармацыі spring96.org - "Праваабаронцы за свабодныя выбары"***



# ЖИТЕЛЬНИЦА КЛИМОВИЧСКОГО РАЙОНА: «НИКТО НЕ ДОКАЗАЛ, ЧТО МОЁ ПОДВОРЬЕ СО СВИНЬЯМИ ПОПАДАЕТ В 5-КИЛОМЕТРОВУЮ ЗОНУ»

**Ксения САВЧЕНКОВА, Комсомольская правда в Белоруссии**

***С августа прошлого года Елена Марченко пытается доказать чиновникам, что имеет право держать свиней***

Дом Елены Марченко — самый крайний в деревне Домамеричи, что в Климовичском райне. И самый дальний от местного свинокомплекса. Женщина много лет занимается разведением свиней — мясо продаёт на рынке, а деньги откладывает на дорогостоящую операцию для сына. Уже полгода Елена пытается доказать в различных инстанциях, что она имеет право держать свиней.

Напомним, после прошлогоднего случая заболевания африканской чумой в Беларуси было принято постановление, которое запрещает содержать свиней в радиусе не менее 5 км от свиноводческих комплексов и ферм. По спутнику от сарая Елены до ближайшего свинокомплекса — 5,2 км. И эти 200 метров для неё принципиально важны…

### «МЯСО ОТДАВАЛИ ВДВОЕ ДЕШЕВЛЕ — ТОЛЬКО ЧТОБЫ ЛЮДИ БРАЛИ»

Мы заходим в дом Марченко, в коридоре сложены стройматериалы. Елена и её муж извиняются:

— У нас постоянная стройка — то одно, то другое доделываем.

В доме чувствуется рука хозяина: все сделано на совесть, чисто, уютно. Пахнет пирогами. Елена приглашает присесть, беседа нам предстоит долгая.

— В августе прошлого года к нам пришли какие-то люди. Не представились, не показали документы, просто сказали: вы должны убить свиней, — вспоминает хозяйка. — Мы написали письмо в Госконтроль — под ним подписалось 17 семей, жителей нашей и соседней деревни Полошково. Спрашивали, почему нам не предъявили постановление, почему не показали карты, просили компенсацию… Потом в сельсовете собрали всех, кто подписал письмо. А когда я перезвонила, чтобы уточнить время, председатель сельсовета ответила: «Мы не разговариваем с теми, кто строчит жалобы!»… На встрече карты нам не показали и компенсации сказали не ждать: «Мы сдадим ваших поросят за полцены на Белыничский протеиновый завод, но вы годами будете деньги ждать»…

Сельчане тогда решили: если есть опасность АЧС — животных надо убивать.

— Я обзванивала райпо, но мне говорили, что принимают свинину убойным весом до 100 кг, а если я привезу больше, то не примут. Раньше я всегда продавала свинину на рынке в Климовичах, но там сказали: ваши места арендует агрокомплекс «Светлый», вам торговать не положено. Тогда я пошла по деревне: «Вань, тебе надо мясо?» — «Денег нету!» — «Отдашь, когда будут!». Килограмм мяса на рынке стоил 40 - 45 тысяч, мы отдавали за 20 - 25 — только чтобы брали. Все, кто растил свиней, оказались в такой ситуации…

### «ДАЁМ ВАМ ТРИ ДНЯ, ЧТОБЫ УБИТЬ СВИНЕЙ»

После совещания по деревне поползли слухи: председатель сельсовета Регина Кондратьева и управделами Елена Вигуро собираются подавать на составителей письма в суд. На работу к Елене даже приходил участковый.

— Мы в письме писали: «В адрес жителей поступали угрозы, что они будут привлечены к административной и уголовной ответственности». Но во время обхода нам говорили, что будут врываться и умерщвлять свиней — разве это не угрозы? Я так думаю, что из-за этой фразы в письме на нас и написали заявление в милицию. Дело закрыли, конечно. Но получается, у нас и рта нельзя раскрыть? — спрашивает Елена.

А в конце октября к дому Марченко приехали на машине две девушки:

— Мы из ветеринарного учреждения, — постелили они на капоте номер районной газеты «Родная Ніва». — Вот тут написано про свиней.

— Но это не нормативный документ! — возразил муж Елены.

На что девушки сказали, что дают три дня, чтобы убить свиней. На вопрос, куда девать мясо, ответили:

— В холодильник. А что не поместится — закатывайте в банки.

Компенсацию не предложили и к остальным жителям деревни не пошли.

— Мы ж одни в деревне не скрывали, что у нас есть свиньи, — говорит хозяйка. — До сих пор не знаем, кто это приезжал… Я пошла на приём к председателю Климовичского райисполкома, думала, он знает, где взять карты района, да объяснит насчет компенсации.

Вопрос компенсации для семьи Марченко стоит достаточно остро: в семье есть ребёнок-инвалид с редким диагнозом — врожденная аномалия костей левого предплечья, аплазия костей. В Беларуси это заболевание не лечат.

Елена показывает фотографии сына, с гордостью говорит о нём — несмотря на диагноз, юноша в прошлом году успешно поступил в БНТУ. Женщина рассказывает, как они ездили по врачам и никто не мог поставить диагноз, с каким трудом попали в клинику Елизарова — только там согласились провести необходимую операцию… Сейчас старшему сыну нужен протез, а это значит — нужны ещё деньги. Младший ребёнок учится в школе, его тоже нужно ставить на ноги. Елена работает на одном из климовичских предприятий, но основные доходы шли от продажи свинины.

— Мы ничего не просили, сами зарабатываем на всё, что нужно. Мы просто хотим, чтобы нас не лишали такой возможности! — Елена доведена до отчаяния. — Если не смогу отстоять свои права, заберу свиней и уеду отсюда. Но тяжело бросать дом, школу…

27 ноября Елена с мужем пошли на приём к председателю райисполкома.

— Председатель объяснил, что они мерили 5 км от комплекса до деревни, а не до каждого подворья: «Не хочу, чтобы звонила какая-нибудь баба Маша и спрашивала, почему её заставили резать свиней, а соседке разрешили оставить». Но для меня эти 200 метров важны! Президент сказал, что чиновники должны индивидуально подходить к каждому, кто содержит свиней в пятикилометровой зоне…

### «МЕНЯ ПРИЗНАЛИ ВИНОВНОЙ И… РАЗРЕШИЛИ ДЕРЖАТЬ СВИНЕЙ ДО МАРТА»

На тот момент у Елены оставались только свиноматки, которые должны были опороситься со дня на день. Глава района великодушно разрешил Елене оставить их до 1 января. Но через день к Марченко пришли с обыском. Правда, в сарае нашли тех трёх свиней, которых ей разрешили оставить. Обыск проходил с нарушениями — понятых участковый привез с собой, а Елене не показали протокол обыска — сказали: у тебя руки грязные, ещё испачкаешь.

Несмотря разрешение главы района






оставить свиней, 8 января проходит заседание административной комиссии, на которой Елену признают виновной в нарушении правил содержания животных и… разрешают оставить свиней до 1 марта.

— Никто так и не смог доказать, что моё подворье находится в пятикилометровой зоне! И я собираюсь обжаловать постановление комиссии в суде. Наняла адвоката, он говорит: слишком много нарушений было во время обхода, обыска, в том, как велось делопроизводство. У меня есть шанс…

После беседы с хозяйкой я иду деревенской улицей, стучусь в калитки, пробую поговорить с местными жителями.

— Если я вам скажу, что у меня свиньи, ко мне придут из сельсовета, скажут зарезать, — захлопывает перед моим носом калитку старушка.

— Свиней не держим! — отрезают в соседнем доме.

— Вы у Елены были? — спрашивают в третьем. — Зачем она высовывается? Сказала бы, как все, нет свиней, от неё бы отстали давно.

***ОФИЦИАЛЬНО***

«В постановлении речь идёт не о подворьях — о населенных пунктах»

— Согласно постановлению Минсельхозпрода, свиней запрещается держать в радиусе не менее 5 км от комплексов, — прокомментировал «КП» ситуацию председатель Климовичского райисполкома Василий Захаренко. — Речь идёт не о конкретных подворьях, а о населенных пунктах. Замеры производила землеустроительная служба Климовичского райисполкома. Было принято решение райисполкома, согласно которому запрещено содержать свиней на личных домашних подворьях в этих населенных пунктах. Деревня Домамеричи, где проживает Елена Марченко, попала в список.

— В постановлении говорится: «В радиусе не менее 5 км от комплексов запрещается содержание свиней крестьянскими (фермерскими) хозяйствами и физическими лицами, в том числе индивидуальными предпринимателями», — пояснил замдиректора департамента ветеринарного и продовольственного надзора Минсельхозпрода Михаил Арешко. — Раз не менее 5 км, значит, может быть и более. Но в каждом конкретном случае решение принимает райисполком с учётом местности и производственных связей.

# В БЕЛАРУСИ ГОВОРИТЬ О ПОЛНОЙ ЛИКВИДАЦИИ АЧС ПОКА НЕ ПРИХОДИТСЯ

***В Беларуси снят карантин по африканской чуме свиней (АЧС), сообщил БелаПАН директор госучреждения "Белорусский государственный ветеринарный центр" Александр Аксенов. В то же время, подчеркнул он, продолжает действовать запрет на содержание свиней на частных подсобных хозяйствах в пятикилометровой зоне от свинокомплексов. По информации сайта naviny.by, запрет будет действовать как минимум три года с момента выявления очага АЧС.***

В настоящее время ведется работа по биологической защите комплексов и отслеживанию продукции, которая завозится в Беларусь из Российской Федерации, включая корма, а также работа с населением, которое держит животных. Кроме того, проводится мониторинг ситуации в свиноводческих комплексах, мясокомбинатах, среди диких и домашних животных.

Говорить о полной ликвидации АЧС в Беларуси пока не приходится, отмечают специалисты. Как пояснил БелаПАН директор РУП "Институт экспериментальной ветеринарии им. С.Н.Вышелесского" Анатолий Гусев, по существующим стандартам страна считается благополучной по прошествии трёх лет после последнего случая заболевания АЧС.

"Чтобы ликвидировать АЧС, надо три года вести мониторинговые исследования и доказать, что у нас нигде нет вспышки заболевания либо животных, которые переболели, но оставили антитела. Говорить о полной ликвидации пока неправильно. Мы можем говорить только о том, что у нас в настоящее время африканская чума не регистрируется", — подчеркнул Гусев.



# КАЖДЫЙ ВТОРОЙ КОЛОДЕЦ В БЕЛАРУСИ НЕПРИГОДЕН ДЛЯ ИСПОЛЬЗОВАНИЯ

Кристина СУХАРЕВИЧ, Ежедневник

***Использование колодезной воды для питья может обернуться серьёзными проблемами со здоровьем.***

На православное Рождество в молодой семье из деревни Литвиновичи Кормянского района Гомельской области произошла трагедия: ребёнок, родившийся в декабре 2013 года, уже в январе 2014-го умер. Убило его не страшное заболевание или чрезвычайное происшествие, а всего лишь вода из колодца. По предварительной версии, она содержала слишком высокую концентрацию нитратов.

Содержимое белорусских общественных колодцев может быть опасным не только для детей. По данным специалистов Центра экологических решений, вода примерно 40–60% из них (всего их насчитывается около 45 тысяч) содержит чрезмерное количество нитратов, и соответственно, не пригодна для питья. Особая опасность заключается в том, что визуально определить опасную и безопасную воду невозможно, она в любом случае будет прозрачной. А заболевания, которые можно «подхватить» из колодца, исчисляются десятками: если при единичных случаях употребления воды с высоким количеством нитратов можно отделаться банальным отравлением, то при постоянном её применении есть возможность получить патологии ЖКТ, сердечную, почечную недостаточность, метгемоглобинемию и многое другое, особый удар получат поджелудочная и щитовидная железы.

Казалось бы, решение лежит на поверхности: надо обратиться в территориальный центр гигиены и эпидемиологии, заполнить заявление на проверку колодца и ждать результата. Однако не всё так просто. Во-первых, кому-то придётся взять на себя ответственность за написание коллективного обращения — обойти минимум 30 местных жителей. Во-вторых, заняться отправкой заявления, потом контактировать с органами госнадзора... Всё это настолько долгая песня, что большинство так и продолжает рисковать, используя непроверенную воду из местного колодца.



В данной ситуации экологи видят более действенное решение — использование тест-реагентов. Принцип действий очень простой: тест-полоска опускается в воду, вследствие чего она меняет оттенок; чем ярче цвет, тем опаснее вода (сравнительная шкала входит в набор, поэтому оттенки можно тут же сверить). Эффективно и точно, как тесты профессиональных химиков, и просто. Но вот беда: стоимость набора полосок превышает полсотни евро. Отжалеть данную сумму или рисковать, как семья из деревни Литвиновичи — выбор каждого. Пока полоски можно взять бесплатно в Центре экологических решений в Минске.

# НАРКАМАНАЎ ЗА АПОШНЯЕ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ СТАЛА Ў СЕМ РАЗОЎ БОЛЬШ

***За апошнія 10 гадоў у пераліку на 100 тысяч насельніцтва ў Беларусі ў 7 разоў павялічылася колькасць нарказалежных, паведамляе газета МУС «На страже». Падрабязнасці ў матэрыяле БелаПАН.***



Сёння на ўліку знаходзяцца звыш за 16 тысяч чалавек, яшчэ некалькі тысяч адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі і праходзяць лячэнне ананімна. Паведамляецца, што большасць зарэгістраваных у краіне наркаманаў — ва ўзросце 20-40 гадоў.

Аднак у апошні час у 14,5 разы павялічылася колькасць пацыентаў наркадыспансераў, маладзейшых за 15 гадоў. Зарэгістраваны выпадкі, калі ў дапамозе спецыялістаў мелі патрэбу нават васьмігадовыя дзеці.

Паводле звестак цэнтра маніторынгу за наркотыкамі і наркаспажываннем, найбольшая колькасць залежных ад псіхаактыўных рэчываў зарэгістравана ў Мінску (у 1,5 разы вышэй за сярэдні па краіне паказчык) і Гомельскай вобласці (каля 17% усіх выпадкаў наркаманіі), найменшая — у Магілёўскай.

Сярод гарадоў з самай напружанай сітуацыяй — Салігорск (амаль кожны другі наркаспажывец тут ВІЧ-інфікаваны), Пінск, Светлагорск, Ваўкавыск і Жлобін.





# ЭКСПЕРТ РАСПАВЁЎ, ЯК ПАДАРАЖЭЮЦЬ АЎТАМАБІЛІ З 1 САКАВІКА

***Генеральны дырэктар "Атлант-М" у Беларусі Сяргей Самойла пракаментаваў увядзенне ў Беларусі ўтылізацыйнага збору на аўтамабілі (крыніца: telegraf.by - 10 лютага 2014).***

З 1 сакавіка 2014 года ў Беларусі ўводзіцца ўтылізацыйны збор на ўмовах, практычна аналагічных расійскаму заканадаўству. Стаўкі ўтылізацыйнага збору будуць роўныя стаўкам Расіі ў расійскіх рублях, але іх выплата — ажыццяўляцца ў беларускіх рублях па афіцыйным курсе, адзначыў ён.

Гэта чарговы крок у паслядоўнасці заканадаўчых змен, уніфікуючых ўмовы працы аўтамабільнага рынку ў Беларусі і Расіі, лічыць Сяргей Самойла. Раней адбылося павышэнне імпартных пошлін на аўтамабілі для юрыдычных, а затым і для фізічных асоб, а таксама адменена льготы па ПДВ пры імпарце аўтамабіляў. У сукупнасці гэта прывяло да істотнага павышэння коштаў на новыя і, перадусім на патрыманыя аўтамабілі.

### ВАЖНЕЙШЫЯ АСПЕКТЫ І НАСТУПСТВЫ ЎВЯДЗЕННЯ ЎТЫЛІЗАЦЫЙНАГА ЗБОРУ Ў БЕЛАРУСІ:

Мацней за ўсё падаражэюць аўтамабілі старэйшыя за тры гады, якія ўвозяцца юрыдычнымі асобамі. Утылізацыйны збор па такіх аўтамабіляў фактычна з'яўляецца забаронным. Гэта вымусіць частку імпарцёраў такіх аўтамабіляў згарнуць сваю дзейнасць. Астатнія будуць увозіць аўтамабілі на канкрэтнага пакупніка — фізічную асобу, як гэта адбывалася, напрыклад, да сярэдзіны 2011 года, калі імпартныя пошліны для фізічных асоб былі ніжэйшыя.

Утылізацыйны збор для фізічных асоб у цэлым з'яўляецца невялікім. Аднак рост коштаў на другасным рынку, верагодна, будзе вышэйшы, чым велічыня ўтылізацыйнага збору, з-за некаторага скарачэння імпарту ў цэлым.

Утылізацыйны збор ў Беларусі ўводзіцца па прынцыпе краіны прызначэння. Таму аўтамабілі расійскай зборкі будуць абкладацца ўтылізацыным зборам у Беларусі, аналагічна таму, як нашы МАЗы абкладаюцца ў Расіі. Адзначым, што з 1 студзеня 2014 года ўтылізацыйны збор у Расіі ў сувязі з патрабаваннямі СГА спаганяецца і пры вытворчасці аўтамабіляў. Гэта азначае, што па машынах расійскай зборкі пры іх імпарце ў Беларусь (у тым ліку па машынах, якія купляюць фізічныя асобы ў расійскіх дылераў) збор будзе спаганяцца двойчы. Падаражэнне такіх машын будзе залежаць ад тэхнічных аспектаў ўвядзення збору.

### АЎТАМАБІЛІ БЕЛАРУСКАЙ ЗБОРКІ, ТАКІЯ ЯК GEELY, ПРЫ ІХ ПРОДАЖЫ Ў БЕЛАРУСІ НЕ ПАДАРАЖЭЮЦЬ

Аўтамабілі, імпартаваныя з-за межаў Мытнага Саюза ў Беларусь, не павінны прыкметна падаражэць, бо пры ўвядзенні ўтылізацыйнага збору павінна адбыцца зніжэнне ставак імпартных пошлін да расійскага ўзроўню (па легкавых аўтамабілях - з 30% да 25%). Калі гэта сапраўды здарыцца, то апынецца адзіным пазітыўным момантам.

Вялікае пытанне ўзнікае па аўтамабілях, імпартаваных з-за межаў Мытнага Саюза ў Расію, якія затым ўвозяцца ў Беларусь (гэта тычыцца тых марак, па якіх у Беларусі дзейнічаюць дылеры ад расійскага імпарцёра — Toyota, Nissan і некаторыя іншыя). Фактычна па ім утылізацыйны збор будзе спаганяцца паўторна.

Моцна падаражэюць аўтамабілі, што вырабляюцца ў краінах СНД, якія не з'яўляюцца членамі Мытнага Саюза (Узбекістан, Украіна), гэта значыць Daewoo, ЗАЗ і да т.п. Пры іх увозе ўтылізацыйны збор будзе выплочвацца па стаўках для юрыдычных асоб.

І ўрэшце, утылізацыйны збор не будзе спаганяцца з аўтамабіляў, зарэгістраваных да 1 сакавіка 2014 года. Такім чынам, для пакупнікоў, якія планавалі ў найбліжэйшыя месяцы набыць аўтамабіль, асабліва расійскай зборкі, мэтазгодна зрабіць гэта ў лютым.

# КАЗАХСКІ ЭКСПЕРТ: ПРОСТЫЯ ЛЮДЗІ АД МЫТНАГА САЮЗА ВЫГАД НЕ ЗАЙМЕЛІ

**Зміцер ЛУКАШУК, Еўрарадыё**

***Самым гучным вынікам братэрства ў межах Мытнага саюза стала значнае падвышэнне ўвазных пошлін на аўтамабілі — іх зраўнялі з расійскімі. Каб паспець да падаражання, беларусы кінуліся набываць тое, на што хапала грошай. І зараз мала хто ў хуткім часе зможа абнавіць свой асабісты аўтапарк — без 10 тысяч долараў на аўтарынку няма чаго рабіць.***

Практычна тое ж падарыў Мытны саюз і казахам, дзеліцца з Еўрарадыё палітолаг казахстанскага Інстытута Азіяцкіх даследаванняў Султан Акімбекаў. Дарагая растаможка замежнага "аўтасмецця" вымушае казахаў набываць расійскі аналаг.

* Султан Акімбекаў: "67% усяго экспарту АўтаВАЗа ідзе ў Казахстан. Зразумела, для нас гэта таксама пытанне яшчэ тое: калі б у нашых пакупнікоў быў выбар, то яны наўрад ці набывалі б прадукцыю АўтаВАЗа ў такой сітуацыі".

Карацей, беларускіх ды казахскіх аўтаўладальнікаў зраўнялі з расійскімі, і на карысць першым двум гэта не пайшло. Як, дарэчы, і простым рабочым нашых аўтазаводаў. Калі ранней нам абяцалі, што, да прыкладу, беларускія МАЗы з БелАЗамі будуць з рукамі адрываць у бязмежнай Расіі ды ў Казахстане, аб'ёмы вытворчасці вырастуць, а следам за імі і заробкі, то і гэтага няма. А ёсць скарачэнне аб'ёмаў, заробкаў і працоўнага тыдня. Не менш складанасцяў і ў Казахстане, які вырашыў вырабляць у сябе аўтамабілі "Лада".




* Султан Акімбекаў: "Але сёння высвятляецца, што мы не можам экспартаваць на расійскі рынак нічога! Бо — утылізацыйны збор, і атрымліваецца, што любы аўтамабіль, які ідзе з нашай тэрыторыі на расійскую, аўтаматычна абкладаецца гэтым зборам, што прыводзіць да цэлага шэрагу праблем".

# БАГДАНКЕВІЧ: ПАДУШКА БЯСПЕКІ ЗДЗЬМУЛАСЯ

**Уладзімер ГЛОД, Радыё Свабода**

***Золатавалютныя запасы Беларусі за студзень скараціліся на 427 мільёнаў долараў. Пра гэта паведаміла ўпраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў Нацыянальнага банку. На 1 лютага яны складаюць 6 мільярдаў 223 мільёны долараў у эквіваленце.***

«Гэта вельмі мала, — сказаў Свабодзе былы старшыня праўлення Нацыянальнага банку Беларусі Станіслаў Багданкевіч. — Ёсць міжнародная сістэма разліку так званай падушкі бяспекі. Для нашай краіны яна павінна складаць дзесьці 12–15 мільярдаў. Так што можна смела казаць: падушка здзьмулася.

Звычайна ў рэзерве трэба мець грошы, якіх хопіць на закуп імпарту цягам трох месяцаў. У нас цяпер такога запасу няма».

# «МАКДОНАЛДС» ПЛАНИРУЕТ ОТКРЫТЬ ТРИ РЕСТОРАНА В МОГИЛЁВСКОЙ ОБЛАСТИ

**Владимир ЛАПЦЕВИЧ, БелаПАН**

***Как сообщили БелаПАН в управлении торговли и услуг Могилёвского горисполкома, в настоящее время рассматриваются три площадки в Могилёве и Бобруйске под строительство ресторанов «Макдоналдс».***

Это площадки на пересечении бульвара Непокоренных и улицы Островского, на пересечении проспекта Мира и улицы Тимирязевской в областном центре и на пересечении улиц Горького и Социалистической в Бобруйске. В настоящее время принципиальное согласие областных властей на строительство там ресторанов уже получено.

До сих пор белорусские рестораны «Макдоналдс» работали лишь в Минске, где сейчас их насчитывается семь. Однако теперь сеть ресторанов быстрого питания начинает развиваться в регионах страны. Так, осенью 2013 года началось строительство ресторана в Витебске — на пересечении улицы Терешковой и Московского проспекта. Ввод в эксплуатацию его запланирован на середину 2014 года.

В Могилёве и Бобруйске рестораны «Макдоналдс» откроются не ранее 2015 года, полагают в управлении торговли Могилёвского горисполкома.

# У ГРОДНЕ ЛЕЎ ПАКУСАЎ ПАВАРЫХУ

**Арцём МАРТЫНОВІЧ, euroradio.fm**

***Супрацоўніца заапарку вырашыла пагладзіць жывёлу, у выніку ёй ампутавалі руку да локця. Пра гэта Еўрарадыё распавялі ў адміністрацыі заапарка.***

Супрацоўнік заапарка: “Зараз вядзецца праверка. Мяркуючы па ўсім, яна вырашыла яго пагладзіць, пералезла праз бар’ер і прасунула руку ў клетку. Яна супрацоўніца заапарка, працавала на кармакухні”.

У адміністрацыі падкрэсліваюць, што ў службовыя абавязкі пацярпелай не ўваходзіла карміць жывёлаў. Лекары характарызуюць стан 37-гадовай пацярпелай як “станоўчы”.



# ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: БОЛЬШ ЗА 13 000 БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, аўдыё і відэа. Усяго размешчана больш за 13 000 розных выданняў. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012 і 2013 год.



kamunikat

Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

21 лютага

## ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

*Чаму я размаўляю на беларускай мове?*

- Я люблю Беларусь і паважаю сваіх продкаў
- Родная мова - тое, што адрознівае нас ад іншых народаў
- Беларуская мова грунтуецца на лексічнай базе старабеларускай
- Старабеларуская мова ў XVI ст. - мова міждзяржаўнай перапіскі ва Усходняй Еўропе і афіцыйная мова ВКЛ да 1696 г.
- Беларускую мову лічаць адной з прыгажэйшых у Еўропе
- Старабеларускую мову выкарыстоўваў першадрукар Ф. Скарына
- Родная мова - гэта спадчына і карані народа. Адсячыце карані - дрэва загіне...

*Толькі самыя развітыя краіны ў XVI ст. мелі законы на ўласнай мове: «не обчым якім языком, але своім власным права спісаныя маем»*
*(Леў Сапега, XVI ст.)*


КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр’евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*